№ 99 (1662)
Серада, 4 чэрвеня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г. на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Кошт свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб Колас**

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### *Надвор'е*

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +20...+22, уначы — +12...+14; у Брэсце ўдзень — +22...+24, уначы — +11...+13; у Гродне ўдзень — +23...+25, уначы — +11...+13; у Віцебску ўдзень — +15...+17, уначы — +12...+14; у Гомелі ўдзень — +15...+17, уначы — +12...+14, у Магілёве ўдзень — +18...+20, уначы — +12...+14. Па ўсёй краіне захаваецца сонечнае надвор'е, без ападкаў.

*www.meteo.by*



ПУЛЬС

## Скошана ўсяго 7 працэнтаў траў



Па стане на 2 чэрвеня скошана ўсяго 7 працэнтаў траў ад плана. Летась на канец мая (заўважце, на канец мая!) гэты паказчык складаў больш за 11 працэнтаў. Тое ж і па нарыхтоўцы сенажу. Летась на канец мая яго было 5,3 працэнта ад плана, цяпер у два разы менш — толькі 2,34 працэнта. Травяной мукі маем 1,43 працэнта, а год таму яе было 5,67 працэнта.

Стракатыя паказчыкі і па абласцях. Калі ў Гродзенскай скошана траў на плошчах, якія складаюць больш за 16 працэнтаў ад наяўных, у Гомельскай — 12 працэнтаў, дык у Мінскай — 3,38, Магілёўскай — 1,6 працэнта. Травяной мукі працаўнікі Брэстчыны маюць 6,4 працэнта, а Міншчыны і Магілёўшчыны — нуль. Скажуць, што на поўдзень краіны вясна прыходзіць раней, таму там і касьбу вядуць даўжэй. Яно так. Але як тады разумець паказчыкі па нарыхтоўцы сіласу? Яго ёсць да плана: на Брэстчыне — 0,57 працэнта, Міншчыне — 0,36, Магілёўшчыне — 0,5 працэнта, а ў паўночнай Віцебшчыне — 0,6 працэнта.

Так што справа не толькі ў надвор'і, але і ў жаданні. А вось яго часта нестае, нягледзячы на селектарныя ды іншыя нарады.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**
**Фота IREX/ProMedia**

## Правяраюць жонку пракурора

Аддзел па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі Ленінскага РАУС Гродна праводзіць праверку гаспадарчай дзейнасці Саюза палякаў на Беларусі. У поле зроку праваахоўных органаў патрапіла ТАА "Прамыслова-гандлёвая палата Саюза палякаў на Беларусі", дырэктарам якога з'яўляецца Людміла Сідо, жонка начальніка аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй Гродзенскай абласной пракуратуры.

Следчы АБЭЗ Мікалай Каваленка пацвердзіў факт вядзення праверкі, але адмовіўся размаўляць з карэспандэнтам "Народнай Волі", спасылаючыся на адсутнасць санкцыі кіраўніцтва.

Нагадаем, што ўпершыню прозвішча пракурора Уладзіміра Сідо прагучала ў сувязі з працэсам над журналістамі ГРТ Паўлам Шараметам і Дзмітрыем Завадскім. Менавіта Сідо прадстаўляў на гэтым працэсе дзяржаўнае абвінавачванне. Пасля паспяховага завяршэння працэсу ён быў пераведзены ў Гродзенскую абласную пракуратуру, дзе ўзначаліў барацьбу з карупцыяй.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ.**

## Хто пастаўляў зброю ў Ірак

5 чэрвеня Хельсінкская камісія ЗША правядзе слуханні з мэтай выяўлення фактаў незаконнай пастаўкі зброі ў краіны-ізгоі і парушэння міжнародных дагавораў аб нераспаўсюджванні зброі дзяржавамі — членамі Арганізацыі па бяспецы і супрацоўніцтве ў Еўропе.

Слуханні заклікаиы вызначыць, ці былі краіны — члены АБСЕ ўцягнуты ў пастаўку зброі або іншага ваеннага абсталявання ў такія дзяржавы, як Ірак, Іран і Паўночная Карэя.

Як паведамляе Хельсінкская камісія, асаблівая ўвага будзе нададзена краінам, "у дачыненні да якіх ёсць падставы меркаваць, што іх урады могуць быць актыўна задзейнічаныя ў распаўсюджванні зброі і іншага ваеннага абсталявання". Слуханні засяродзяцца на паведамленнях СМІ аб незаконнай пастаўцы зброі з Беларусі, Расіі, Украіны і краін Балканскага рэгіёна.

**Вольга ЛАПІКАВА, БелаПАН.**

## Помнік Андрэю Вангіну

У невялікім польскім гарадку Гневе, што пад Гданьскам, адбылося ўрачыстае адкрыццё надмагільнага помніка беларускаму акцёру Андрэю Вангіну.

Андрэй Вангін нарадзіўся ў 1895 годзе ў мястэчку Відзы (сёння Браслаўскі раён Віцебскай вобласці). Акцёр стаў знакаміты як удзельнік вядомай беларускай трупы Галубка. Пасля другой сусветнай вайны жыў у Гданьску, памёр у 1977 годзе ў гарадку Гнеў. Магілу Андрэя Вангіна адшукалі актывісты беларускай арганізацыі Гданьска.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ.**

ЗАКУЛИСЬЕ

# Любитель экстрима

*Раньше председатель группы "Республика"* ***Сергей Скребец*** *был увлечен экстремальным туризмом, а теперь — исключительно работой в Палате представителей.* ***"Для меня это тоже своего рода экстремальный туризм",*** *— и в шутку и всерьез говорит депутат.*

### Увлеченный изотерикой

В мае Сергей Скребец впервые прыгнул с парашютом.

"Я уже не молодой человек, мне 39 лет, поэтому это было осознанное решение, — говорит он. — С физической подготовкой у меня все в порядке: долгое время я активно занимался спортом, сейчас иногда по утрам бегаю, несколько раз в неделю плаваю. Теоретической подготовки по прыжкам с парашютом, откровенно говоря, было маловато. За двадцать минут энтузиасты гродненского аэроклуба "Альбатрос" объяснили мне всю теорию, на всякий случай уточнив: "Все понял? Тогда вперед!".

Самое главное — через три секунды после прыжка посмотреть, раскрылся ли купол. Если нет, значит, надо выбрасывать запасной. К счастью, у меня обошлось без происшествий и травм, если не считать, что при приземлении я едва не врезался в футбольные ворота. Все-таки прыжок с парашютом — занятие небезопасное...".

Скребец не может толком ответить на вопрос, что все-таки заставило его сигануть с борта самолета. "Пять лет назад меня спрашивали, зачем я поехал на Тибет. Я так и не смог объяснить...".

Кстати, на Тибете Скребец умудрился побывать несколько раз вместе с делегацией врачей-парапсихологов, а также с йогами и буддистами. С тех пор Сергей Николаевич стал увлекаться изотерикой.

### Вовлеченный в криминал

На днях прокуратура Беларуси предложила депутату заняться более приземленными вещами, нежели изотерика, — ***5 июня*** Скребца просят явиться к старшему следователю по особо важным делам **В.Тереховичу**. Как написано в повестке, *"для производства следственных действий"*.

Напомним, что Сергей Скребец подозревается в содействии незаконному получению крупных кредитов в одном из филиалов "Беларусбанка" директорами ООО "Белтрэйдэкспо" и ЗАО "Торговый дом "БелБабаевское". По данным следствия, фирма "Белтрэйдэкспо" с использованием ложных документов получила 188 тысяч долларов, а "Торговый дом "БелБабаевское" — 340 тысяч, которые впоследствии были переведены в Москву на счет некого предприятия "Техимпорт". В следственном отделе Управления по борьбе с оргпреступностью и коррупцией прокуратуры говорят, что это предприятие нигде не значится: реквизиты, которые были представлены в "Беларусбанк", оказались подложными...

Дела по обвинению директоров "Белтрэйдэкспо" и "БелБабаевский" в невозвращении кредитов уже слушались в суде.

Начальник департамента финансовых расследований Комитета Госконтроля по Минску и Минской области **Олег Колосовский**, комментируя "дело Скребца" в официальной прессе, заявил, что во время следствия экс-директор "Белтрэйдэкспо" **Роман Ривкин** и остальные обвиняемые в незаконном получении кредита говорили о том, что Скребец якобы не просто лоббировал интересы вышеуказанных фирм, а вполне конкретно и непосредственно организовывал получение кредитов. Благодаря своему высокому положению он в глазах банкиров являлся как бы гарантом возврата банку многотысячных кредитов. Интересно, что попавшие на скамью подсудимых банкиры отмечали, будто депутатский статус Скребца во многом влиял на то, что они халатно отнеслись к проверке представленных для получения кредитов документов *(вот уж никогда бы не подумала, что депутат Палаты представителей действует на банкиров, как удав на кролика! —* **М.К.***)*

Новый директор филиала №510 "Беларусбанка" **Лариса Балабанова**, принимавшая участие в попытках возвращения кредитов, утверждает, что, когда в деле многое стало проясняться, Скребец просто пропал. Он *"не отвечал на телефонные звонки. Работники службы безопасности банка искали его даже в парламенте, но и там он уклонился от встреч. Честно скажу, что всех нас это очень удивило. Ведь сначала мы искренне полагали, что Скребец, который раньше возглавлял фигурирующие в уголовном деле коммерческие структуры, заинтересован в поиске истины, желает помочь попавшему в беду банку. Мы не могли понять логику человека, который сначала выражает сочувствие и готовность помочь, а затем прячется. Но когда мы узнали, что фамилия депутата фигурирует в уголовном деле, нам все стало понятно. Ну а если сейчас он желает придать этой незаконной сделке какую-то политическую окраску, то я оставляю это на его совести..."*

В ответ на упреки г-жи Балабановой Скребец говорит, что депутату сложно пропасть в парламенте. "Смешно комментировать, что я уклонялся от встреч и при этом подписывал банковские протоколы, — говорит Сергей Николаевич. — Я и сейчас выражаю сочувствие и готовность помочь банку возвратить его капиталы. Однако для этого необходимо вернуть документы, печати и конфискованное имущество фирмам, снять арест со счетов...".

Несмотря на то что старший следователь в своем послании к Скребцу сделал упор на морально-этический момент (*"Считаю, что как представитель законодательной власти в данном случае Вы должны служить примером законопослушного поведения другим участникам процесса"),* появляться в прокуратуре депутат не намерен.

"Весной этого года ряд должностных лиц фирм ЗАО "Торговый Дом "БелБабаевское" и ОДО "Белтрэйдэкспо" признан виновным и осужден к различным мерам наказания, — говорит Сергей Николаевич. — По этим делам я в качестве свидетеля не допрашивался, в суд не вызывался, однако в приговорах в нарушение ст.301 Уголовно-процессуального кодекса указывается на мое участие в совершении этих преступлений с указанием фамилии и должности — генерального директора ЗАО "БелБабаевское".

Еще до разрешения дела судом в мой адрес прозвучали публичные обвинения органов предварительного расследования, главы государства и других высших должностных лиц, чем грубо нарушена презумпция невиновности.

Я не совершал никаких противоправных действий, преследуемых в уголовном порядке, и поэтому считаю себя невиновным, а уголовное дело, возбужденное в отношении меня, — политически мотивированным за мою активную гражданскую, общественную и депутатскую деятельность, в том числе в составе группы "Республика" Палаты представителей Национального собрания Республики Беларусь.

При таких обстоятельствах я не верю в объективное и справедливое разрешение данного уголовного дела, я отказываюсь от дачи показаний".

**Марина КОКТЫШ.**



*Скребец после прыжка с парашютом.*

# Як праваліліся гандляры

Да гэтага часу збываюць сельгаспрадукцыю мінулагодняга ўраджаю магазіны Віцебскага гарплодагароднінагандлю. Цэны, праўда, сучасныя, свежыя. Але і гэта не дапамагае гандлёваму прадпрыемству разлічыцца з велізарнымі даўгамі.

Мінулай восенню, як і штогод, кіраўніцтва гарплодагароднінагандлю запэўніла выканаўчую ўладу і насельніцтва, што аб'ёмы закладкі на зіму гародніны перавысілі планавыя паказчыкі, і ў магазінах з гэтымі прадуктамі не будзе праблем як мінімум да лета.

Але, як стала вядома пазней, абяцанне аказалася перабольшваннем, а прасцей кажучы, — падманам. Замест запланаваных 2 тысяч тон бульбы заклалі ў сховішчы толькі 700 тон. Завышаныя лічбы былі прадстаўлены "наверх" і па іншых пазіцыях: бураках, моркве, цыбулі. А каб хоць неяк пацвердзіць лічбы, кіраўнікі гандлю ўключылі ў справаздачныя паперы гародніну, прынятую на захоўванне ад калгасаў і саўгасаў, але не закупленыя і не адпраўленыя ў магазіны. Складаліся фальшывыя дакументы аб тым, што гэтыя тавары ўжо знаходзяцца ў гандлёвай сетцы.

Вынікам гэтага махлярства было тое, што востры дэфіцыт гародніны на віцебскіх прылаўках праявіўся ўжо ў лютым. Кіраўнікам гарплодагароднінагандлю не заставалася нічога іншага, як браць крэдыты і закупляць сельгаспрадукцыю ў іншых абласцях Беларусі па больш высокіх цэнах, чым яшчэ нядаўна маглі атрымаць мясцовую.

Зразумела, і прадаваць прыйшлося даражэй, з-за чаго гараджане хутка забылі шлях у магазіны і кінуліся на базар. Выручка гарплодагароднінагандлю аказалася настолькі нязначнай, што ён не змог ва ўстаноўлены тэрмін разлічыцца за крэдыты і з пастаўшчыкамі прадукцыі, многія з якіх да гэтага часу чакаюць грошай за гародніну восеньскай пары.

І сёння ўспамінаюць нядобрым словам гандляроў у прыгарадным калгасе імя Чырвонай Арміі, якому гарплодагароднінагандаль павінен з кастрычніка 70 мільёнаў рублёў.

Агульная крыдыторская запазыка гандлю складае больш за мільярд! Да гэтага трэба дадаць страты ад сапсаваных за зіму прадуктаў, а разам з тым і 130 мільёнаў рублёў штрафных санкцый, якімі адзначыў "дзейнасць" гандляроў Камітэт дзяржкантролю пасля нядаўняй рэвізіі.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**
*Віцебск.*

ПРОСЬБА РЕДАКЦИИ

## Помогите бедным...

Нет того дня, чтобы в редакцию не позвонили и не попросили: "Помогите подписаться на "Народную волю"...". Эти слова мы слышим от бывших малолетних узников, испытывающих ныне большие финансовые трудности, от людей, ставших по воле судьбы инвалидами и, понятно, еле-еле сводящих концы с концами, от пенсионеров с минимальной пенсией, от тех, у кого большие семьи, а доходы мизерные... Да мало ли сегодня людей, бюджет которых не позволяет выделить несколько тысяч рублей на подписку на любимую газету.

Но мы знаем: многие и сами живут неплохо, и другим могут помочь. **Именно к Вам, людям состоятельным, и обращается редакция. Проявите сочувствие к тем, кто рядом с Вами, но нуждается в поддержке.** Это могут быть Ваши родственники, это могут быть ваши соседи, это могут быть ваши сослуживцы, приятели... Для Вас это — движение души, а для них — каждый день глоток свежего воздуха. Правдивая информация — это духовный кислород, без которого человек не может нормально жить.

**Мы обращаемся к руководителям фирм, предприятий.** У Вас много хороших людей, которые заслужили подарка. Оформите им подписку на "Народную волю" — чем не подарок?

**Помогите тем, кто в Вашей помощи нуждается, — Бог воздаст Вам по заслугам.**

С надеждой на взаимопонимание —

**РЕДАКЦИЯ ГАЗЕТЫ "НАРОДНАЯ ВОЛЯ".**

ПРОТЕСТ

## Судебный иск к авторам Союзного государства

**Журналистов ознакомили с копиями исков, поданных шестью минчанами в Верховный суд Республики Беларусь на действия высшего должностного лица и государственных органов. Возраст истцов от 40 до 60 лет.**

К.Кошель, Г.Плешко, С.Попков, А.Радюк, А.Чехольский, В.Юхо обратились в высшую судебную инстанцию с просьбой:

— признать, что Договор о создании Союзного государства от 8.12.1999 года коренным образом меняет условия жизни граждан, нарушает их конституционные права, угрожает здоровью и жизни детей;

— признать Договор о создании Союзного государства от 8.12.1999 года недействительным, поскольку он противоречит Конституции Республики Беларусь (принят с нарушением статей 7 и 8 Основного закона и статей 3 и 16 Закона "О Президенте Республики Беларусь);

— обратиться в Конституционный суд с ходатайством о признании того, что статья 1 Договора о создании Союзного государства от 8.12.1999 года по своей сути не соответствует положениям статьи 1 Конституции Республики Беларусь.

Кроме того, истцы начали сбор подписей под этим обращением. Подписавшиеся граждане Беларуси будут иметь право участвовать в судебном процессе в качестве третьих лиц без оплаты госпошлины.

Если, конечно, такой процесс состоится.

Потому как уже получен ответ из Верховного суда о направлении упомянутых исков в суд Ленинского района столицы "для решения вопроса о возбуждении дела". Однако, как известно, дела подобного рода в отношении высших должностных лиц рассматриваются именно в Верховном суде.

Журналисты поинтересовались у инициаторов пресс-конференции: "Что послужило толчком к обращению в суд именно сегодня, ведь с момента подписания Договора прошло два с половиной года?" В ответ прозвучало: "Принятие парламентом в первом чтении закона о направлении белорусских граждан в горячие точки для участия в военных действиях под личиной миротворческих операций".

**Валерий ЩУКИН.**

## Газета «Известия» абараняе ўласнага карэспандэнта ў Мінску

**1 чэрвеня газета "Известия" зрабіла афіцыйную заяву ў сувязі з сітуацыяй вакол уласнага карэспандэнта газеты ў Мінску.**

29 мая Міністэрства замежных спраў Беларусі вынесла ўласнаму карэспандэнту "Известий" у Мінску Алене Данейка афіцыйнае папярэджанне аб парушэнні закона Рэспублікі Беларусь "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі". Прычынай для гэтага паслужыў апублікаваны ў "Известиях" 22 мая матэрыял Кацярыны Грыгор'евай і Алены Данейка "Лукашэнка стаў у позу", у якім гаварылася пра адмену запланаванай на 2—3 чэрвеня сесіі Парламенцкага сходу Саюзнай дзяржавы ў Магілёве. Аўтары звязвалі адмену мерапрыемства з крызісам у расійска-беларускіх адносінах і выказвалі меркаванне, што сам А.Лукашэнка з'яўляецца праціўнікам рэальнай інтэграцыі Расіі і Беларусі.

"У беларускіх СМІ, — адзначаецца ў заяве "Известий", — публікацыя выклікала неадэкватную рэакцыю. Падкантрольныя адміністрацыі Аляксандра Лукашэнкі газеты і тэлеканалы абрынуліся на "Известия" з выпадамі, якія нават блізка не нагадвалі крытыку. Аўтары матэрыяла называліся не інакш як "прадажнымі пісакамі", а сама газета — "брыдкай". Гэта было бруднае цкаванне з пераходам на асобы, несумяшчальнае з нормамі цывілізаванай палітычнай дыскусіі".

Прадстаўнікі "Известий" адзначаюць, што крэда газеты заўсёды было "максімальна поўнае і сумленнае інфармаванне чытачоў аб тым, што адбываецца ў свеце". "Сёння ў Расіі, у адрозненне ад Беларусі, улада не можа загадаць газеце, што ёй пісаць і што не пісаць. Мы ўпэўнены, што сумленнае інфармаванне расійскіх грамадзян аб сапраўдным становішчы рэчаў у Саюзнай дзяржаве Расіі і Беларусі адпавядае нацыянальным інтарэсам — нават калі гэта не падабаецца беларускім уладам", — гаворыцца ў заяве расійскага выдання.

**Аляксей ШЭІН.**

СКАНДАЛ

## Браты Цыгалкі больш не будуць гуляць за «Дынама»

Навaспечаны трэнер мінскага "Дынама" Анатоль Байдачны не толькі бліскуча дэбютаваў у нацыянальным чэмпіянаце, але і настроіў сваіх футбалістаў забіць у вароты ВА-БДУ ажно чатыры мячы.

Два галы ў вароты армейцаў закалаціў форвард сталічнага "Дынама" Мікалай Рындзюк, па адным — Сяргей Карніленка і Петар Златінаў.

Гульня як гульня: нічога асаблівага. Але што было заўважана: на полі не выступалі двое вядучых ігракоў мінскага клуба — браты Цыгалкі.

Па словах Анатоля Мікалаевіча, Максім і Юра ў канфліктных адносінах з кіраўніцтвам клуба. "Мне такія ігракі не патрэбны, — заявіў Байдачны, — трэба ствараць моцны калектыў, а не бабскі батальён. Чым я і збіраюся заняцца ў бліжэйшай перспектыве".

Аказваецца, і Максім, і Юра адмовіліся гуляць за "Дынама", кантракт з якім падпісаны ажно да 2005 года. Што стала прычынай падобнага скандалу, карэспандэнт "Народнай волі" вырашыў высветліць, дазваніўшыся братам у Стайкі, дзе яны рыхтуюцца да адборачнага матча чэмпіянату Еўропы са зборнай Галандыі.

— Мы больш не будзем гуляць за мінскае "Дынама", — заявіў па тэлефоне варатар Юрый Цыгалка, — і я спадзяюся, што пакуль мы будзем рыхтавацца да адказных сустрэч са зборнай Беларусі, кіраўніцтва клуба адшукае нам новы клуб. Нас не задавальняюць умовы, прадастаўленыя "Дынама", і новыя трэнерскія пазіцыі. Мы — прафесіяналы і за дубль гуляць не збіраемся!

**Вольга РАМАНЮК.**

# Сколько нужно денег?

По данным экономической прессы, в обращении Беларуси находится примерно 20 квадриллионов белорусских рублей или один миллиард долларов. Кое-кто считает, что денежную массу можно увеличить в 10 раз. Я придерживаюсь почти такого же мнения. И вот почему. Как видно из предложенного читателям "Народной воли" графика, тринадцать лет назад денежная масса была 39,76 миллиарда долларов (по данным статистики). Таким образом, произошло ее уменьшение почти в 40 раз. Вот почему увеличение денежной массы в обращении в 8 раз — это оптимальный вариант.

**Александр СИДОРОВИЧ,**
**житель Минска.**

**Изменение рублево-денежной массы в обращении (РДМ) и валового внутреннего продукта (ВВП) в Беларуси за последние 20 лет.**





*На рэчку!*

Фота IREX/ProMedia.

ПУЛЬС

## Гродзенцы не верацьу латарэі

**Чарговы раз быў перанесены розыгрыш тыражу грашова-рэчавай латарэі "Гарадніца-1". Распараджэнне аб гэтым прыняў Гродзенскі аблвыканкам.**

Нягледзячы на адпаведную рэкламную кампанію ў дзяржаўных СМІ і тое, што актыўны ўдзел у распаўсюджванне латарэйных білетаў на дзяржаўных прадпрыемствах і ўстановах Гродна прымалі органы мясцовай улады, было прададзена менш за палову агульнага накладу латарэі.

Гродзенцаў не спакусілі абяцаныя прызы, сярод якіх 2 аўтамабілі. У такіх умовах аблвыканкаму не засталося нічога іншага, як у чарговы раз перанесці розыгрыш.

Васіль Піроржнік, кіраўнік дачэрняга унітарнага прадпрыемства "Гродналатарэя", бачыць прычыну нізкай папулярнасці "Гарадніцы-1" у тым, што насельніцтва ў прынцыпе не верыць у латарэі.

Згодна з распараджэннем аблвыканкама, розыгрыш "Гарадніцы-1" мае адбыцца 21 чэрвеня.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ.**

## На Брэстчыне 20 тапельцаў

За апошні месяц у вадаёмах Брэсцкай вобласці патанула больш за два дзесяткі чалавек, восем з іх — за апошнія тры дні.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе УУС Брэсцкага аблвыканкама, 30 мая на вадзе загінулі два чалавекі. У Мухаўцы патануў жыхар Кобрына 28 гадоў, а ў Ясельдзе — грамадзянін Арменіі, які прыехаў у вёску Нарутовічы Бярозаўскага раёна ў госці. Ён патануў падчас рыбалкі, выпаўшы з лодкі.

31 мая загінулі тры чалавекі, у ліку якіх 5-гадовы хлопчык, жыхар вёскі Ніжні Церабежаў Столінскага раёна. Дзіця было пакінута без нагляду і патанула ў рэчцы Церабежаўка. Падчас рыбалкі ў рацэ Камянцы непадалёк ад вёскі Чырвоны Двор патануў непрацуючы 42-гадовы брэстаўчанін. 31 мая ў вадаёме каля хутара Прыпяць Лунінецкага раёна быў знойдзены труп жанчыны ў адзенні. У гэтым выпадку высвятленнем абставін смерці займецца пракуратура.

Тры чалавекі загінулі ў вадзе 1 чэрвеня. У Мухаўцы — 21-гадовы студэнт Брэсцкага дзяржуніверсітэта, які спрабаваў пераплыць раку, у вадаёме каля вёскі Хвалава — 27-гадовы трактарыст калгаса "Іскра" Пружанскага раёна, у вадаёме каля вёскі Святая Воля Івацэвіцкага раёна — дзяўчынка 8 гадоў.

Часцей за ўсё прычынай трагедый на вадзе становіцца купанне ў нецвярозым стане і пераацэнка ўласных сіл.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ, БелаПАН.**

# Воруют... почку?

## Во имя продления жизни на этом свете одному человеку ускоряют уход на тот свет другому

*Информация российских средств массовой информации о пресечении в 20-й московской больнице попытки незаконного изъятия почки вряд ли оставила равнодушными и жителей нашей страны...*

Сотрудники Московского уголовного розыска и прокурор ворвались, в прямом смысле этого слова, в операционную в тот момент, когда хирург-трансплантолог уже подносил руку со скальпелем к животу 53-летнего пациента, лежащего на операционном столе. Изъятие почки не допустили, труп увезли и захоронили со всеми принадлежащими этому человеку при жизни органами. А прокуратура возбудила уголовное дело по статье "покушение на умышленное убийство".

Основания для возбуждения дела более чем веские. Врачи-реаниматоры милицейского госпиталя, прибывшие вместе с группой захвата, зафиксировали у несостоявшегося донора признаки жизни: сокращалось сердце, было артериальное давление. Пациент жил еще целый час. Более того, трансплантологи намеревались приступить к изъятию у человека органа, не имея акта констатации биологической смерти. Не говоря уже о такой "мелочи", как согласие самого донора или его родственников. Сотрудники МУРа обнаружили у трансплантологов лишь чистые бланки актов смерти и изъятия органов для пересадки с подписями судмедэкспертов.

И вот уже второй месяц по всей России операции по пересадке органов не проводятся. Нет, трансплантация не запрещена, просто виртуальная скамья подсудимых приобрела реальные очертания. И врачи-реаниматоры, поскольку именно они констатируют так называемую биологическую смерть у пациента с бьющимся сердцем, напряженно ожидают развязки ситуации.

Насколько затянется пауза, сказать трудно. Давление на следствие будет колоссальное — затронуты очень большие деньги. Ведь стоимость внутренних органов человека в долларовом исчислении обозначается пяти-шестизначными числами, а количество трансплантаций, проводимых на Земле в течение года, приближается к ста тысячам.

Органы для пересадки изымают не только у человека, находящегося при смерти, но и у абсолютно здоровых людей. Об одном таком случае сообщала "Комсомольская правда" в ноябре 2000 года. Пятилетнего Андрюшу бабушка, папа и мама продали на запчасти за 90.000 долларов (первоначально запросили сто тысяч). И это не где-нибудь в банановой республике, а в Рязани — самом центре России.

В программе "Честный детектив" (РТР) рассказали о продаже из Нальчика (Кабардино-Балкария) в Израиль российских детей и живых взрослых доноров. Преступники изобличены и осуждены, но никого из проданных детей так и не обнаружили. Выяснили лишь стоимость "товара". Младенец до года — 50.000, ребенок в возрасте одного-двух лет — 100.000 долларов.

* * *

С пересадкой человеческих органов я столкнулся в 1996 году, когда в Верховный Совет 13-го созыва поступил законопроект о трансплантации. Законопроект усиленно лоббировали в парламенте. В это же время средства массовой информации заполонили материалы о сотнях наших сограждан, спасти которых от гибели могла только трансплантация почки. И это — правда (для пересадки других органов в Беларуси отсутствует необходимая материально-финансовая база). Беда только, что во имя продления жизни одного человека на этом свете приходится ускорить уход на тот свет другому.

Проблема — в несовместимости человеческих тканей. Даже кровь одной группы (а таковых всего восемь) перед переливанием проверяют на индивидуальную совместимость с пациентом. Вероятность же совместимости при пересадке костного мозга (фактически — те же клетки крови), а тем более внутренних органов, на несколько порядков ниже. Более того, кровь заготавливают про запас, а изъятый орган может находиться вне организма очень непродолжительное время: сердце и легкое — 6 часов, печень — сутки, почка — до полутора суток. Но это в том случае, когда изымать орган начали при бьющемся сердце. Если почку взять после остановки сердца, то "живучесть" ее составит всего 20 минут. Чтобы уложиться в такой жесткий лимит времени, придется ставить рядом два операционных стола и работать одновременно двум бригадам хирургов...

Ежегодно в Беларуси проводят десятки операций по пересадке почек. И делаются они в Центре трансплантации, расположенном в Минске на территории 4-й клинической больницы. Везти туда умирающего донора даже в столице не на чем: отсутствуют машины скорой помощи, оборудованные аппаратами для поддержания работы сердца и легких. Иначе говоря, вот уже более 30 лет в Беларуси почки изымают при бьющемся сердце. Делают это исключительно хирурги Центра трансплантации. Их вызывают, когда в реанимацию какой-либо клиники доставляют нужного донора.

Но кое-что для трансплантации остается и клинике. К примеру, суставы. В ходе работы над законопроектом мне довелось побывать в операционной морга одной из больниц (это совсем не то помещение, где патологоанатомы производят вскрытие). Оборудование и стерильность операционного блока на самом высочайшем уровне! Оно и понятно: малейшая инфекция, попавшая в трансплантат, приведет к отторжению пересаженной ткани и финансовым проблемам отлаженного бизнеса.

Человек, получивший несовместимую с жизнью черепно-мозговую травму, может скончаться до получения результатов и определения пригодности его органов к трансплантации. И потому анализы эти делаются еще при жизни. Во-первых, у доноров, сдающих кровь. Во-вторых, при клиническом обследовании пациентов.

В отличие от Соединенных Штатов, Канады, Японии, Великобритании, Германии и многих других стран, в которых требуется согласие донора и родных на изъятие органа, в России и Беларуси никто никого не спрашивает. На мой запрос о количестве полученных Центром разрешений на изъятие почек поступил ответ: "Ни одного". И, судя по завесе молчания вокруг этой темы, за прошедшие семь лет ничего не изменилось.

Я внимательно изучил инструкцию Минздрава по транспортировке человеческих органов из Беларуси за границу. В ней все расписано по минутам. Начало операции по изъятию органа жестко привязано ко времени вылета самолета, а вовсе не к моменту смерти мозга. Это было в 1996 году. Ныне, похоже, от такой практики отказались. Дешевле и безопаснее переправить живого донора и произвести пересадку на месте.

Доставлять надо не человека вообще, а конкретного донора к конкретному пациенту. Об этом весьма красноречиво показано в упомянутой передаче Российского телевидения. У ребенка брали кровь и везли пробу в другую страну. Только кровь: фотографии малышей и другие сведения о них организаторов не интересовали. Дети до трех лет — идеальные субъекты костного мозга для трансплантации. Мой костный мозг, здорового, в общем-то, 60-летнего мужика, и даром никому не нужен. А малыши ценны еще и тем, что платы за свой костный мозг не потребуют.

Без пересадки костного мозга и внутренних органов, пока органы эти не станут воспроизводить из клеток человеческого организма, пожалуй, не обойтись. Только вот делать это надо на принципах гласности и добровольности. Анонимность — питательная среда для криминального бизнеса. Именно этим, на мой взгляд, и объясняется появление в операционной 20-й московской больницы людей в форме милиции и прокуратуры.

**Валерий ЩУКИН, депутат Верховного Совета Республики Беларусь 13-го созыва.**

# Канцэрт без апладысментаў

У мінскім Доме ветэранаў адбыўся канцэрт-рэквіем "Мы помнім вас", прысвечаны памяці загінуўшых на Нямізе ў 1999 годзе. Канцэрт-рэквіем, канцэрт-малітва, канцэрт-перасцярога. Канцэрт без апладысментаў.

Загінуўшыя маладыя душы назаўсёды застануцца ў сэрцах родных і блізкіх, а таксама ў сэрцах людзей, якія рэагуюць на чужы боль, як на свой асабісты. Нельга прымірыцца з тым, што адбылося. Заўсёды прыйдзецца жыць з пытаннем: чаму гэта стала магчымым, чаму замест вяселляў і нараджэнняў дзяцей — заўчасная смерць?

...Марыі, Вольгі і Таццяны, Анастасіі, Люды, Іны...

Святланы, Жанны, Аляўціны, Алёнкі, Вікі і Ірыны...

Чым можна супакоіць бацькоў гэтых дзяўчынак? Дзе знайсці тыя словы, каб нечалавечы боль стаў не такім жудасным?! Я ўпэўнена ў тым, што, калі знойдзецца найбольшая колькасць людзей, гатовых раздзяліць гэты боль, родным загінуўшых будзе лягчэй.

З такой упэўненасцю жывуць на зямлі муж і жонка Яўген і Ларыса Стахоўскія, людзі надзвычай добрыя і абаяльныя. Гэта вельмі прыгожая пара, якіх, дарэчы, не закранула бяда на Нямізе. І тым не менш жаданне прыняць на сябе хоць невялікую толіку ўдараў лёсу іншых людзей стала для іх справай гонару.

Штогод за свой кошт яны арганізоўваюць канцэрты Памяці, на якія з кожным разам прыходзіць усё больш людзей: і ў глядзельную залу, і на сцэну — для ўдзелу. Чатыры гады таму ўпершыню Яўген Міхайлавіч спяваў адзін у амаль пустой зале. З таго часу ўсё змянілася. З'явіліся новыя прыхільнікі гэтага мерапрыемства. І кожны раз канцэрт гучыць з новай сілай, з больш моцным накалам.

Сам Яўген Міхайлавіч, маючы ад прыроды прыгожы голас, бярэ ўрокі вакалу, для таго каб спяваць найбольш прафесійна. Ларыса Анатольеўна, музыкант па адукацыі, валодае не толькі музычнымі інструментамі, але і вельмі прыгожым голасам. Песня "Дожджык асенні, паплач аба мне" прагучала на апошнім канцэрце як рэквіем.

Сярод удзельнікаў канцэрта — не толькі прафесійныя артысты, але і аматары. Толькі канцэрт ад гэтага нічога не губляе, а, наадварот, набывае. Пастаяннымі ўдзельнікамі сталі заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, гітарыст волей Божай Сяргей Анцішын, гітарыст і вакаліст Аляксандр Цэрахаў, кампазітар і педагог Леанід Гуцін, студэнт Беларускай Акадэміі музыкі, чалавек вельмі таленавіты Міхаіл Русіноўскі са сваёй маладой прыгажуняй-жонкай Інай.

Каб канцэрт атрымаўся высокапрафесійным, з вялікім натхненнем працуе мастацкі кіраўнік праграмы — заслужаны работнік культуры Рэспублікі Беларусь Адам Асманавіч Мурзіч. Дзякуючы яму ў гэтым годзе ў праграме прынялі ўдзел навучэнцы Мінскага музычнага вучылішча імя М.І.Глінкі: А.Прохараў, В.Падукоў, А.Макарэвіч (вакал), Н.Сялюк (мастацкае слова), Т.Усік, а таксама педагог гэтага вучылішча Ірына Германаўна Чаленка (фартэпіяна).

Прыняў удзел нават студэнт С.-Пецярбургскай кансерваторыі, некалі вучань Адама Асманавіча, Андрэй Быкоўскі. Яго барытон не толькі крануў сваёй прыгажосцю, але здзівіў і ўразіў.

Бацькі, родныя і сябры загінуўшых бязмерна ўдзячны сям'і Стахоўскіх за тое, што робяць яны сваю справу бескарысліва, ад усяго сэрца. Удзячны ім і ўдзельнікі канцэрта. Дзякуючы гэтым незвычайным людзям усе ўдзельнікі сталі сябрамі, амаль што раднёй. Яны разам адпачываюць, працуюць над новымі праектамі.

"Без гэтага ўжо нельга жыць", — гаворыць бацька Ларысы, які прыязджае са Светлагорска на кожны такі канцэрт.

А сын Яўгена і Ларысы — Барыска, які заканчвае падрыхтоўчы клас, мне сказаў пасля канцэрта: "У наступным годзе Адам Асманавіч мне падбярэ песню, і я таксама яе спяю".

Я нікольні не сумняваюся ў тым, што такое можа быць, як і не сумняваюся, што ніколі не знікнуць людзі, гатовыя раздзяліць чужы боль, падставіць плячо тым, хто ў гэтым мае патрэбу.

**Яўгенія БОГУШ.**
**Фота IREX/ProMedia.**

НОВЫЯ ЛЮДЗІ

# Я — адзіночка

***— Я працаваў брыгадзірам у калгасе імя Янкі Купалы, — распавядаў Канстанцін Міхайлавіч Корсак, — а ў 89-м годзе, па-мойму, выйшаў Закон аб фермерстве і сталі з'яўляцца першыя мужыкі-фермеры. Гэта было цікава, тым больш што я па натуры — адзіночка і калгасам працаваць не люблю.***

Тады ў нас Закрэўскі пайшоў у фермеры, потым — парторг, але ён да такой работы не прывык і праз тры гады кінуў. Ну, і я за імі: спачатку ў кааператыў уступіў, які ў нас з'явіўся, а потым сабраў паперы на фермерства. Дакументы вазіў у райвыканкам з лютага па лістапад 92-га года: то гэта не так, то тое не гэтак... А я па характары зануда: як міма выканкама еду, абавязкова туды забягу. Потым мне падказалі звярнуцца ў Камітэт па зямельнай рэформе, дзе працаваў тады сённяшні наш міністр Русы. Я зайшоў да яго і паскардзіўся, а ён — кулаком аб стол: "Як гэта — зямлю не даюць? А законы на што?" Назаўтра райвыканкам выдзеліў мне зямлю. А праз пару дзён прыехаў інжынер з Гіпразема, але я ўжо не ўзяў участак за 14 кіламетраў, які мне прапанавалі, а ўзяў, дзе сам захацеў!

І пачаў я з пустога месца. Крэдыты давалі невялічкія, я за свой мог купіць толькі трактар, плуг і прычэп. А з адным плугам — не разгонішся... Таму ўзяў я ў аднаго хлопца сеялку, пасеяў, нарэзаў ягонай саджалкай градкі сабе, потым — яму і ўсё — за адзін дзень. Хлопец добры быў, але гультай, таму і разарыўся.

**— А што трэба чалавеку, каб фермерствам заняцца, — адукацыя, якасці?** — пацікавілася я.

— Стартавы капітал, веды, што даюць СПТВ і Маладзечанскі вучэбны камбінат, — гэтага дастаткова! — заявіў Канстанцін Міхайлавіч. — А потым не лянуйся, чытай! А яшчэ патрэбна нейкае пачуццё гаспадара і асабістай годнасці. Бо я ведаю шмат талковых фермераў, якія кінулі гэтую справу, але ведаю і такіх, якім кожны год б'юць па руках, а яны ўсё роўна робяць сваё. У мяне спадзяванні на моладзь. Тыя, каму зараз 25—30, прывыклі: мама, дай! А вось маладзейшыя ўжо ведаюць, што так проста ім нічога ніхто не дасць, усё трэба самім зарабіць. Мой старэйшы сын вучыцца завочна на эканаміста і мае права падпісваць за мяне фінансавыя дакументы, а меншы займаецца ў гандлёва-эканамічным каледжы. Ці будуць фермерамі? Старэйшы — абавязкова, малодшы — не ведаю.

**— А ці хацелі б Вы, каб зямля стала прыватнай?**

— У прынцыпе, я — за, але зараз гэта, напэўна, не своечасова і небяспечна. Стане зямля прыватнай, а потым прыйдзе новая ўлада, закон адменіць ды зямлю забярэ... Альбо прычэпіцца да чаго-небудзь і дзяцей наогул без кавалачка зямлі пакінуць.

**— Вы проста баіцеся?**

— Так, баюся. Зараз я абаронены дзяржавай, у мяне, у крайнім выпадку, тэхніку адабраць могуць, а пабудовы і зямлю — не! Ну што ж, пабатрачаць мае хлопцы ў іншага фермера, дасць ён ім тэхніку, каб пасеяць, а потым яны ураджай збяруць ды і пачнуць усё нанова!

Зайшла ў нас с Корсакам гутарка пра калгас, дзе ён раней працаваў, фермер і кажа:

— Ляжачая гаспадарка! Спецыялісты ўсе сышлі... На пасяўную сёлета прыкамандзіраваў сюды ўсіх, хто раней працаваў, да фермераў звярталіся... Тэхнікі з раёна столькі нагналі, што яна ўжо і лішняя, — агульнымі намаганнямі неяк адсеяліся.



А летась у нас новы старшыня райвыканкама з'явіўся. Мы з хлопцамі дамовіліся папрасіць яго хаця б гектараў па 50 зямлі нам накінуць. Пайшлі, а ён расплакаўся: я — новы чалавек, не ў курсе, што да чаго — не ведаю! Не вырашыў пытання. Прайшоў час, фермеры нашы паперы падрыхтавалі, зноў туды паляцелі, а ім: адмовіць!

**— А якая матывацыя?**

— Кажа: "Во, буду я такія кавалкі зямлі аддаваць!". Ён што, выкідае яе? За мяжу аддае? У яго ж зямлю хлебаробы просяць! У калгасе летась усяго цэнтнераў па 20 з га збожжа сабралі, ды па 60 — бульбы. А мы атрымалі за 50 цэнтнераў збожжа з гектара, і пад 200 — бульбы, бо год неспрыяльны быў. І што б здарылася, калі б нам калгаснай зямлі яшчэ адрэзалі? У рэшце рэшт, стала б яго тэрыторыя меншай, менш спатрэбілася б там людзей, дык я б іх да сябе на работу ўзяў. І за добрую зарплату добра б у мяне працавалі, нікуды не падзеліся б! У нас адзін фермер наймаў спачатку тых, хто за бутэльку працаваў, паглядзеў — не тая работа. Стаў ім добра плаціць, дык хлопцы піць перасталі! А Закрэўскі пераманіў з калгаса добрага трактарыста, які раней трохі паддаваў. Дык ён, як пачаў добра зарабляць, таксама кінуў гарэлку піць. Зараз яго не пазнаць: здаровым чалавекам стаў: сам — як шафа, твар — як рэпа!

Шэсць гадоў таму Корсаку прыйшла з сельсавета папера, дзе яго абавязалі абмалаціць сваім камбайнам збожжа, пасеянае калгаснікамі на сваіх сотках. Ён пакрыўдзіўся і адгаварыўся тым, што трэба давесці да ладу свой ураджай.

— Уяўляеце? Я — свабодны чалавек, а мяне не просяць, мне — загадваюць! — абураўся фермер. — А нядаўна дзяўчына з сельсавета без усялякіх загадаў нагадала, што хутка Свята Перамогі. У нас жа пяць гадоў таму 360 удзельнікаў вайны было, а зараз ветэранаў разам з інвалідамі ледзь 50 чалавек набярэцца. Летась райвыканкам на кожнага ветэрана выдзеліў тысяч па сем рублёў. Ну, а мы — фермеры Закрэўскі, Пакуш, Цітуленка, Паўлюкоўскі і я скінуліся, зрабілі для ветэранаў стол, купілі добрыя падарункі, машыны нанялі, каб людзі пешшу не хадзілі, у Вязынку нават аўтобус пусцілі. Але параўнайце: раней мясцовая ўлада загадвала, а цяпер — нагадвае! А гэта ўжо зусім па-іншаму ўспрымаецца.

У мяне адзін дзед — ветэран, другі — таксама, толькі ён дакументы ўсе пагубляў.

**— Вашы родныя дзяды?**

— Не, суседзі. Аднаму 80 гадоў напярэдадні Вялікадня споўнілася. Я ім дапамагаю соткі пасадзіць і наогул усё, што трэба, зрабіць. Але іх дзеці, калі прыязджаюць, мне дапамагаюць таксама.

**— А чаму чыноўнікі так неахвотна даюць фермерам зямлю?** — запыталася я.

— Дык мы ж выбіваем у іх уладу з-пад ног! — адказаў Корсак. — Фермерам яны ўжо не пакамандуюць, што сеяць ды як убіраць! У нас наогул шмат людзей не тым, чым трэба, займаюцца. Мы летась капусту, па 320 рублёў за кілаграм здавалі, а ў крамах яе прадавалі ўжо па 700. Уяўляеце, колькі пасрэднікаў у ланцугу ад поля да прылаўка?

**— Дык, можа, і для Вас, і для нас было б лепш, каб фермеры стварылі свае фірменныя магазіны?**

— Будуць у нас і фірменныя магазіны з цягам часу, абавязкова будуць! І мы, такім чынам, вырашым асноўныя нашы праблемы, — збыт прадукцыі і своечасовасць разлікаў.

**— А якія планы на будучыню?**

— Буду працягваць сеяць збожжа, бульбу, агародніну, лубін, а вось свінагадоўляй займуся ўсур'ёз. Павялічу пагалоўе свіней да пяцідзесяці, як у Закрэўскага, і найму добрага ветэрынарнага ўрача, як гэта зрабіў Паўлюкоўскі. Своечасова вірус не паганяеш, — палову статка страціш. Я хачу, каб урач двойчы ў тыдзень прыйшоў, свінак маіх паглядзеў, прывівачкі, якія трэба, зрабіў, вітамінчыкі пракалоў, адным словам, за мой статак адказваў галавой!

**Ганна АРЦЮШКЕВІЧ.**

*Маладзечанскі раён.*

ПАМЯТЬ

# Поклониться дорогому человеку...

В сорок первом восемнадцатилетним ушел из родной чериковской деревни Ушаки на фронт мой дядя Антон Васильевич Корнеенко. Защищал осажденный Ленинград, освобождал Прибалтику, получил вместе с другими боевыми наградами три особенно дорогие для него медали "За отвагу". Нередко храбрый сержант-артиллерист заменял, если требовали обстоятельства, командира батареи, отбивал массированные атаки вражеских танков, был тяжело ранен.

Казалось бы, такому молодцу в мирное время — так все нипочем. И впрямь, дядя не боялся никаких трудностей, у него были золотые руки, упорство и терпение в любой работе. Видели бы вы, какой дом построил он в родных Ушаках — на загляденье. Ведь Антон Васильевич был отменным столяром и плотником.

Его любили и ценили сельчане, а вот начальство недолюбливало. Видимо, за независимый характер, самостоятельность в поступках. Я хорошо запомнил его горькие слова: "Уж лучше на фронте, чем со своими бюрократами воевать".

Когда в связи с чернобыльской бедой деревню отселили, он с женой — да еще сосед — остались здесь. Без электричества и радио. Втроем на все Ушаки. Получить положенную отселенцам квартиру в чистой зоне как-то не получилось, да он и не сильно переживал из-за этого. Просто не мог бросить отцовский угол, любил его не только на словах.

Два года назад умерла жена ветерана, а не так давно и он сам. На могилу замечательного человека в опустевшую деревню местное руководство не прислало даже цветочка... Видимо, по-прежнему нерушимым остается разделение ветеранов на две категории: одни — для всяческих торжеств и пышностей, остальные — для забвения...

Но забвения никому и ничему не будет: ни людям, ни их поступкам. Пусть начальство "не заметило" уход в мир иной последнего фронтовика деревни. Мы, родные и земляки, кто знал и любил Антона Васильевича, как и раньше, гордимся им. И память будем беречь, пока сами живы. Весной, на Радуницу, я сел в автобус и отправился в Ушаки на его могилу, хоть дорога из Минска, где я теперь живу, до Черикова не близкая. Поклониться дорогому человеку — святое дело.

**Александр КОЛЫМСКИЙ, житель Минска.**

# Годнае жыццё залежыць ад справядлівых выбараў

Усебеларускі рух "За годнае жыццё" аб'явіў аб пачатку кампаніі "За справядлівыя выбары".

Як паведаміў на сустрэчы з журналістамі ў Мінску старшыня аргкамітэта "За годнае жыццё" дэпутат парламента Валерый Фралоў, кампанія накіравана на падтрымку ўнясення змяненняў і дапаўненняў у дзеючы Выбарчы кодэкс.

Гэтыя папраўкі ўжо падрыхтаваны дэпутацкай групай Палаты прадстаўнікоў "Рэспубліка". Паводле слоў В.Фралова, яны закліканы забяспечыць эфектыўны механізм кантролю кожнай стадыі выбарчага працэсу з боку грамадскасці і палітычных партый.

Змяненні ў Выбарчы кодэкс, у прыватнасці, прадугледжваюць удзел у выбарчых камісіях усіх узроўняў прадстаўнікоў грамадскасці, палітычных партый і арганізацый, пашырэнне паўнамоцтваў назіральнікаў за ходам выбараў і пры падліку галасоў, адмену датэрміновага галасавання, а таксама магчымасць судовага абскарджвання любых рашэнняў арганізатараў выбараў.

За два месяцы аргкамітэт мае намер сабраць 450 тысяч подпісаў грамадзян у падтрымку законапраекта "Рэспублікі". Менавіта столькі, паводле яго слоў, неабходна для ініцыявання рэферэндуму па гэтым пытанні. Але члены аргкамітэта не хочуць выходзіць з такой ініцыятывай, апасаючыся, што ўлады ў гэты рэферэндум могуць уключыць і пытанне аб працягу паўнамоцтваў Аляксандра Лукашэнкі. "Мы хочам паказаць, што маем права на рэферэндум, але не хочам гэтым рэферэндумам даваць Лукашэнку шанц працягнуць свае паўнамоцтвы", — сказаў В.Фралоў.

**Юрый ПАЦЁМКІН, БелаПАН.**

## Есть «Национальный атлас Беларуси»

В Республике Беларусь завершились работы по созданию фундаментального картографического произведения "Национальный атлас Беларуси".

Он состоит из 19 разделов, 11 из которых посвящены природным условиям республики, 7 — социально-экономическим условиям, 1 — истории Беларуси. Всего в НАБ представлены 593 тематические карты.

В реализации проекта "Национальный атлас Беларуси" принимали участие республиканское унитарное предприятие "Белкартография" Комзема, печать тиража осуществлена унитарным предприятием "Минская печатная фабрика", Департамента государственных знаков Министерства финансов Республики Беларусь.

## Угнаў МТЗ-80

33-гадовы жыхар вёскі Беразавец Карэліцкага раёна ўгнаў калгасны трактар МТЗ-80.

Скарыстаўшыся хвілінай няўвагі трактарыста, які, не заглушыўшы матор, пайшоў у краму, ён хутка пранік у салон і паехаў. Але ад'ехаць угоншчык здолеў не больш за 400 метраў. Не справіўшыся з кіраваннем, ён выехаў на супрацьлеглую паласу руху і, накіраваўшы трактар у кювет, перавярнуўся.

"Як тлумачыць сам угоншчык, ён нібыта хацеў апрацаваць сваё поле, але гэта хутчэй за ўсё не адпавядае рэчаіснасці, бо падчас здзяйснення злачынства ён быў у нецвярозым стане", — гаворыць Іван Раманюк, следчы Карэліцкага РАУС.

**Андрэй АДЛЯНІЦКІ.**

## За месяц загінулі 64 чалавекі

64 чалавекі загінулі і 40 атрымалі траўмы рознай ступені цяжкасці ў выніку пажараў і надзвычайных сітуацый, што адбыліся ў Беларусі ў маі.

На працягу месяца было зарэгістравана звыш 960 пажараў, матэрыяльны ўрон ад якіх перавысіў 600 мільёнаў рублёў. Байцы пажарных аварыйна-ратавальных падраздзяленняў выратавалі больш за 30 жыхароў рэспублікі і матэрыяльных каштоўнасцей у грашовым эквіваленце на суму каля мільярда рублёў.

З пачатку года падчас пажараў у Беларусі загінулі 616 чалавек — на 62 больш, чым за аналагічны леташні перыяд; ратавальнікамі было ліквідавана 5314 пажараў і 133 аварыі.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

СПОРТ

## «Анахайм» зраўняў лік

У чацвёртым матчы фінальнай серыі за Кубак Стэнлі каманда, у якой гуляе беларускі хакеіст Руслан Салей, ізноў перамагла.

Нагадаем, што ў мінулай сустрэчы "Анахайм Майці Дакз" выйграў у "Нью-Джэрсі Дэвілз" у овертайме з лікам 3:2, дзякуючы дакладнаму кідку беларускага абаронцы.

Чацвёрты матч адбыўся такім жа ўпартым. Асноўны час не вызначыў мацнейшага — 0:0. На 39-й секундзе овертайма адзіную і пераможную для "Анахайма" шайбу закінуў Сціў Томас (на здымку).

Такім чынам, лік у фінальнай серыі за Кубак Стэнлі стаў нічыйным — 2:2. Уладальнікам самага ганаровага хакейнага трафея стане тая каманда, якая першай дасягне чатырох перамог у серыі.

## Гандбалісткі не трапілі на сусветнае першынство

Спартсменкі жаночай зборнай Беларусі па гандболе не здолелі трапіць у фінальную частку чэмпіянату свету.

У першым матчы плэй-оф, які праходзіў у Мінску, нашы спартсменкі згулялі ўнічыю са зборнай Славеніі — 26:26. Для выхаду на чэмпіянат свету беларускам была патрэбна толькі перамога.

Аднак у Славеніі зборная Беларусі саступіла славенкам з лікам 24:34. Такім чынам, на сусветнае першынство, якое пройдзе ў снежні ў Харватыі, адправіцца зборная Славеніі.

**Віталь ГАРБУЗАЎ.**

